*На прастор, на шырокі разлог*
*Выхадзі, мой народ, грамадою...*

***Якуб КОЛАС***

# Народная Воля

**№№15–16 (3554–3555)**

27 студзеня 2012 г.

**Выдаецца з ліпеня 1995 г. на беларускай і руская мовах**

**Выдавец: УП «Народная воля».**
**Кошт — свабодны.**

**Да ўвагі!**

***Хто хоча набываць газету ў офісе рэдакцыі — чакаем!***

**З-ЗА КРАТАЎ**

## Андрэй САННІКАЎ: «Потым пачаліся катаванні»

Ірына Халіп склікала экстранную прэс-канферэнцыю на наступны дзень пасля спаткання з мужам. Мала хто бачыў Ірыну такой. У жонкі былога кандыдата ў прэзідэнты Андрэя Саннікава, які зараз адбывае пакаранне ў калоніі "Віцьба-3", часам былі поўныя вочы слёз. І не слёз радасці ад доўгачаканага спаткання...

Тры месяцы да гэтага пра Андрэя Саннікава не было ніякай інфармацыі. Адвакатаў і сваякоў да яго не дапускалі, лісты не даходзілі. А калі дапусцілі, то высветлілася, што Саннікаў выглядае так, нібыта прайшоў праз сталінскія лагеры. І што ён яшчэ ў снежні падпісаў прашэнне аб памілаванні на імя Аляксандра Лукашэнкі.

Ірына лічыць, што прашэнне з Андрэя "выбілі" сапраўднымі катаваннямі. Яна сцвярджае, што на такі крок ён мог пайсці з-за пагроз сям'і. *"Андрэй разумее, у якім цяжкім стане я знаходжуся. Улічваючы, што па прысудзе для мяне ўведзена "каменданцкая гадзіна" і я абавязана адчыняць дзверы познім вечарам, калі яны прыходзяць з праверкай са словамі: "Адчыняйце, міліцыя!". Так да мяне можа прыйсці хто заўгодна, і я не змагу не адчыніць дзверы. Андрэй гатовы памерці сам, але ён не дазволіць прычыніць шкоду нам з Данікам",* — сказала жонка палітвязня.

Самыя цяжкія пакуты — гэта пагроза жыццю тваіх блізкіх. А яшчэ месяцы ў "адзіночнцы", без лістоў, без сустрэч з адвакатам, без якіх-небудзь вестак з волі, неаднаразовыя, па некалькі тыдняў, "транзіты" з калоніі ў калонію, з хворымі на сухоты, з правакатарамі...

Больш за ўсё Ірыну ўсхвалявала тое, што падчас прэс-канферэнцыі 23 снежня Аляксандр Лукашэнка рабіў выгляд, што не ведае пра прашэнне Саннікава. У той жа час, па яе звестках, Саннікаў вымушаны быў падпісаць прашэнне яшчэ ў канцы лістапада. *"Магчыма, Лукашэнку зусім не былі патрэбны прашэнні аб памілаванні. Гэта адмазка для журналістаў, якія яму задаюць пытанні. У яго іншая задача",* — гаворыць Ірына. Хаця сярод іншых яна выказала і версію, што кіраўнік краіны, магчыма, пра прашэнне нічога не ведаў, бо больш не кантралюе сітуацыю.

Спатканне з Анрэем Саннікавым у калоніі "Віцьба-3" доўжылася дзве гадзіны з відэакантролем і размовай праз шкло. Ірына распавяла, што за тры апошнія месяцы Андрэй так змяніўся, што *"стаў падобны на чалавека, за якім дзесяць гадоў сталінскіх лагераў".*

*"Ала Уладзіміраўна, маці Андрэя, плакала ўсе чатыры гадзіны па дарозе дадому, бо першай фразай сына былі словы: "Я не спадзяваўся, што яшчэ калі-небудзь цябе ўбачу",* — расказала Ірына, сама ледзь стрымліваючы слёзы.

*"Андрэй не мог распавесці пра тое, што з ім адбылося за тры апошнія месяцы. Ён толькі змог перадаць: "Мая адсідка скончылася яшчэ ў верасні. Потым пачаліся катаванні",* — сказала Ірына Халіп.

Нагадаем, што менавіта ў верасні палітвязня накіравалі этапам з Навапалацкай калоніі ў Віцебскую, адтуль — у Магілёўскую, потым — у калонію "Віцьба-3"... Праваабаронцы нават гэтыя бясконцыя "этапы" лічаць катаваннямі, бо доўжацца яны не дзень і не два, а іншы раз тыднямі.

*"Спадзяюся, што ўбачымся яшчэ хоць раз",* — сказаў Саннікаў на развітанне жонцы і маці. Але пасля апошняй сустрэчы з мужам у Ірыны Халіп такой упэўненасці няма. Наступнае спатканне, згодна з правіламі, павінна адбыцца толькі праз чатыры месяцы.

**Любоў ЛУНЁВА.**

**ДАРЭЧЫ**

Прыкладна праз тры гадзіны пасля прэс-канферэнцыі Міністэрства ўнутраных спраў паведаміла, што прашэнне аб памілаванні Андрэй Саннікаў падаў 23 снежня (**менавіта ў той дзень, калі была прэс-канферэнцыя Аляксандра Лукашэнкі**), і толькі 23 студзеня 2012 года яно разам з падрыхтаванымі матэрыяламі трапіла з калоніі ў аддзел па пытаннях грамадзянства і памілавання Адміністрацыі прэзідэнта.

**БЕЛАРУСЬ–ЕЎРОПА**

## Жорсткі тон

У Страсбургу на сесіі Парламенцкай асамблеі Савета Еўропы зноў гучала беларускае пытанне. Еўропа заклапочана сітуацыяй у нашай краіне, пра што сведчыць прынятая еўрадэпутатамі рэзалюцыя, якую заходнія СМІ ўжо назвалі "надзвычай жорсткай".

Рэзалюцыя прымалася на аснове даклада дакладчыка ПАСЕ па Беларусі Андрэаса Херкеля і выклікала гарачую дыскусію ў Еўрапарламенце. Меркаванні былі розныя, некаторые нават далекія ад палітычнай карэктнасці. Так, літоўскі дэпутат Эджыдзіус Вайкерыс сказаў: "У мяне адна заўвага да даклада. Трэба ўбраць слова "прэзідэнт" перад прозвішчам "Лукашэнка". Гэта вельмі вялікі гонар для дыктатара. Мой дом знаходзіцца ў 30 кіламетрах ад Беларусі, і я ведаю, як там жывуць звычайныя людзі. Калі мы жывём побач з дыктатарамі, значыць, не ўсё добра з нашай дэмакратыяй".

І ўсё ж адвечныя адвакаты Аляксандра Лукашэнкі на Захадзе -- дэпутаты ад Расіі -- падчас дыскусіі баранілі афіцыйны Мінск, выкарыстоўваючы ўсе магчымыя аргументы. Так, прадстаўнік Расіі Валерый Фралоў адзначыў: "У дакладзе скажона адлюстраваны падзеі. Здаецца, што гэта напісана пра Судан. Узгадайце Брэсцкую крэпасць, Хатынь... Загінуў кожны чацвёрты... Там чысціня і парадак... Мы павінны даць сігнал і апазіцыі аб тым, як можна ўзаемадзейнічаць з уладай... Разумных санкцый не існуе. Яны б'юць па ўсіх. Трэба працаваць над вяртаннем Беларусі ў ПАСЕ".

Аднак большасць еўрапарламентарыяў усё ж палічылі, што за Мінск работу па вяртанні да ліку цывілізаваных краін ніхто не зробіць. У выніку рэзалюцыя была прынята. "За" прагаласавалі 119 дэпутатаў, "супраць" -- толькі 10. Сярод тых, хто галасаваў супраць, былі пяцёра прадстаўнікоў Расіі, двое азербайджанцаў, двое сербаў і адзін дэпутат-камуніст з Малдовы. Пазіцыю еўрапейскіх палітыкаў падтрымалі і прадстаўнікі Украіны, і прадстаўнікі Грузіі, якія часцяком таксама станавіліся на бок абароны палітыкі Аляксандра Лукашэнкі. Такім чынам, можна казаць, што "беларускае пытанне" -- той рэдкі прыклад, калі еўрадэпутаты выказваюцца амаль адзінадушна. І цяпер санкцыі Еўрапейскага Саюза, уведзеныя ў дачыненні да Беларусі і некаторых беларускіх чыноўнікаў, могуць быць падтрыманы значна большай колькасцю краін. Па крайняй меры, нават Расіі адрасаваны зварот падтрымаць гэтыя санкцыі.

**Віталь ГАРБУЗАЎ.**

**З РЭЗАЛЮЦЫІ...**

У прынятай на гэтым тыдні рэзалюцыі ПАСЕ ўтрымліваецца заклік да дзяржаў-сябраў Савета Еўропы:

-- далучыцца да кропкавых санкцый Еўрасаюза да вызвалення і поўнай рэабілітацыі ўсіх палітзняволеных і прымусіць беларускія ўлады да спынення рэпрэсій супраць палітычных апанентаў;

-- пераглядзець механізмы міжнароднага і двухбаковага абмену інфармацыяй з Беларуссю, для таго каб прадухіліць злоўжыванне ёю беларускімі ўладамі;

-- разглядзець магчымасць змяншэння ці ліквідацыі візавых збораў для беларускіх грамадзян;

-- па-ранейшаму прадастаўляць універсітэцкія праграмы маладым беларускім студэнтам, усталяваць сувязі з Еўрапейскім гуманітарным універсітэтам у выгнанні (Вільнюс), а таксама з Еўрапейскай школай палітычных даследаванняў у выгнанні (Кіеў);

-- захаваць, а па магчымасці ўзмацніць, рэжым кропкавых санкцый асабліва супраць дзяржаўных кампаній, звязаных асабіста з А.Лукашэнкам і яго блізкімі, -- да вызвалення і поўнай рэабілітацыі палітычных зняволеных і спынення рэпрэсій супраць палітычнай апазіцыі, незалежных СМІ і праваабаронцаў;

-- працягнуць падтрымку, у тым ліку фінансавую, для развіцця арганізацый грамадзянскай супольнасці, уключаючы праваабарончыя арганізацыі і незалежныя СМІ, незалежныя прафсаюзы, масавыя непалітычныя грамадзянскія арганізацыі.

Без змен застаецца і пазіцыя аб статусе спецыяльна запрошанага ў ПАСЕ для дэпутатаў беларускай Палаты прадстаўнікоў. Станоўчае рашэнне гэтага пытання залежыць ад таго, ці будзе ў Беларусі аб'яўлены мараторый на смяротнае пакаранне і ці будзе прагрэс у сферы дэмакратыі.

**РЭАКЦЫЯ МІНСКА**

Міністэрства замежных спраў Беларусі ў асобе прэс-сакратара Андрэя Савіных своеасабліва ацаніла прыняты ў Страсбургу дакумент.

*"Прыняты даклад можна назваць шараговым шаблонным дакументам, напісаным на аснове сумніўных матэрыялаў і фальшывых абвінавачанняў з сеткі інтэрнэт. Аўтар Андрэас Херкель Беларусь не наведваў, за беларускай візай не звяртаўся. Яго не было сярод парламенцкай дэлегацыі Эстоніі, якая наведала Мінск у кастрычніку мінулага года ў межах міжпарламенцкага супрацоўніцтва і ўзаемадзеяння. Гэта пра многае гаворыць".*

*Савіных таксама паскардзіўся на тое, што ў Страсбург не былі запрошаны беларускія дэпутаты: "Гэта з'яўляецца відавочным доказам перадузятасці і ангажаванасці іх падыходаў. Ва ўсіх дзеяннях такога кшталту ў апошні час мы бачым вельмі мала здаровага сэнсу, адсутнічае логіка. Яны хутчэй накіраваны на абслугоўванне кар'ерных, рэпутацыйных ці палітычных патрэб саміх ініцыятараў".*

**ГАЗЕТА–ЧЫТАЧЫ**

## Эксперыментуем...

Так, на старонках ужо другога выпуску "Народнай Волі" праводзіцца эксперымент: шукаем больш прывабны варыянт вёрсткі. У гэтым плане паспрабуем зрабіць яшчэ шэраг захадаў. Мэта -- надаць газеце новы, больш сучасны, больш арыгінальны воблік.

Таму, шаноўныя чытачы, не моцна крыўдуйце на нас, калі вам што з нашых пошукаў не падабаецца... У любым выпадку спынімся на найбольш аптымальным варыянце.

**Рэдакцыя.**

**ТАК И СКАЗАЛ!**

*Жан-Клод МИНЬОН, председатель Парламентской ассамблеи Совета Европы:*

*— Мы считаем заслуживающим сожаления тот факт, что из-за позиции руководства страны, которое упорно избегает дискуссий и реформ, все население Беларуси страдает и на него указывают пальцем. Это же ненормально.*

**ЧУЛІ?**

## Нашто пакупніку 100 кілаграмаў тварагу?

***Каб прадухіліць масавы вываз прадукцыі ў Расію, у Магілёўскай вобласці ўведзены абмежаванні на продаж сыроў, масла, тварагу, кефіру, смятаны і малака.***

Як вынікае з пастановы ўпраўлення гандлю аблвыканкама, некаторыя кіраўнікі гандлёвых арганізацый вобласці самі папрасілі ўвесці абмежаванні. Ва ўпраўленні ж гэтыя абмежаванні называюць рэкамендацыямі.

*"Для таго каб гандлёвыя арганізацыі змаглі вытрымаць увесь асартыментны пералік на працягу працоўнага дня, далі рэкамендацыі, што яны могуць уводзіць абмежаванні, калі назіраюцца масавыя скупкі. Фізічныя асобы абмежаванняў, нават калі яны дзе і ўведзены, не заўважаць»,* -- цытуе БелаПАН тлумачэнні супрацоўніцы ўпраўлення.

Калі пакупнік наважыцца набыць 50 літраў малака, альбо 30 кілаграмаў смятаны, альбо 20 кілаграмаў сыру, альбо па 100 -- тварагу ды масла, то гэта мусіць насцярожыць прадаўцоў. Пакупнік павінен растлумачыць, нашто яму столькі тавару.

Паводле афіцыйнай інфармацыі, ажыятаж вакол прадуктаў харчавання ў рэгіёне даўно знік. Крамы забяспечаны таварам. Малочныя камбінаты атрымліваюць узнагароды за дасягненні ў вырабе прадукцыі. І раптам -- абмежаванні, якія называюць «рэкамендацыямі».

**ЗАРАБІЛІ**

## Звыш 5,5 мільярда долараў

Столькі, калі канвертаваць рублі, у 2011 годзе было пералічана ў нацыянальны бюджэт ад плацяжоў, сабраных мытнымі органамі Беларусі.

**СПАСИБО!**

## Гуманность поляков обрадовала минскую семью

О том, как на польско-белорусской границе минчанин Валентин Юрченко прямо в автомобиле принял роды (преждевременные) у своей жены Светланы, писали все СМИ. «Скорая», вызванная польскими пограничниками, доставила маму и малыша в белостокскую больницу. Благодаря экстренной помощи, все обошлось благополучно. Правда, у счастливых родителей возникла проблема: где взять деньги, чтобы оплатить услуги польских медиков? Общая сумма оказалась немалой — почти 9 тысяч долларов. Впрочем, учитывая, что случай исключительный, к тому же, вызвавший широкий общественный резонанс, она вскоре была уменьшена польской стороной до чуть более трех тысяч «зеленых».

Но и эти деньги белорусской семье не пришлось искать. За нее долг больнице полностью погасила известная польская фирма по производству красок «Снежка».

Что и говорить, гуманность поляков очень обрадовала минскую семью Юрченко.

**Сергей МАТВЕЕВ.**

**СХВАТКА**

# Они способны заглушить океан!

***Вчера белорусская теннисистка Виктория Азаренко вышла в финал Открытого чемпионата Австралии, заработав при этом 1 миллион 90 тысяч долларов США. Удвоит ли она эту сумму в субботу?***



После полуфинальной победы над бельгийской спортсменкой Ким Клийстерс Вика не скрывала радости слез: *«Я словно 100 кг потеряла. Такое ощущение, что мое тело ничего не весит. Но победа того стоит! Я ощущаю невероятный душевный подъем!»*

Разрыдаться было от чего. Впервые в истории независимой Беларуси наша теннисистка вышла в финал турнира Большого шлема. Теперь в финале 28 января (начало матча -- в 7 утра по белорусскому времени) она сыграет с россиянкой Марией Шараповой. «Народная Воля» проанализировала, почему этот финальный матч так интересен.

### Битва за корону

Победитель турнира станет первой ракеткой мира -- этот шанс предоставляется как Виктории Азаренко, которая сейчас занимает 3-ю позицию, так и Шараповой (4-я).

Россиянка, безусловно, более титуло-ванная. Если для 22-летней Вики, выступающей в Мельбурне в 7-й раз, это первый выход в финал Australian open, то Мария Шарапова, которая на два года старше, в третий раз сыграет в решающем поединке. Шарапова побеждала на этом турнире в 2008 году. Кроме того, в ее послужном списке еще два триумфа в турнирах «Большого шлема» -- на Уимблдоне-2004 и Открытом чемпионате США-2006.

Ранее Азаренко и Шарапова играли между собой шесть раз, одержав по три победы. Последний раз они встречались в 2011 году в четвертьфинале турнира в Риме. Тогда белоруска проиграла, отказавшись от продолжения матча из-за проблем со здоровьем. Сейчас букмекеры ставят на победу Азаренко.

### Кто громче?

Любопытно будет понаблюдать за поединком двух, пожалуй, самых крикливых теннисисток мира. Болельщикам надо запасаться наушниками, потому что если Шарапова и Азаренко во время игры «запоют» в унисон, то вполне смогут заглушить стадион. Газета The Telegraph, например, составила рейтинг самых громких теннисисток. Мария Шарапова в нем на первом месте -- 101 децибел, Виктория Азаренко на 6-м -- 83,5. Есть и другие данные, согласно которым громкость крика Шараповой достигает 105 децибел, а Азаренко -- 95. Кроме того, белоруска установила рекорд по продолжительности крика -- 1,72 секунды, сравнявшись по этому показателю с малыми ушастыми совами, пишет The Daily Mail.

При этом крики каждой из теннисисток классифицированы. В частности, по мнению журналистов The Telegraph, Мария Шарапова *«обладает той разновидностью крика, который характерен для порнофильмов»*. Звуковое сопровождение Виктории Азаренко во время матчей журналисты характеризуют так: *«Часто довольно низко начинает, поднимается на октаву и заканчивает тихим ржанием. Затем звучит пронзительный крик, за которым следует вздох».*

Самой Вике эти разговоры уже изрядно надоели: *«Я и Мария – не единственные теннисистки, которые кричат во время матчей. Это часть меня, часть моей игры. Крик помогает мне играть на выдохе, двигаться. Это компонент моего движения... Мой папа и многие другие мужчины храпят. Но они делают это неосознанно. Так и я кричу на корте».*

### Белорусские корни

Виктория Азаренко -- коренная белоруска, но и у Марии Шараповой есть белорусские корни. Сайт спортсменки сообщает, что она родилась 19 апреля 1987 года в маленьком сибирском городке Нягань, куда ее родители переехали из Гомеля, спасаясь от последствий катастрофы на Чернобыльской АЭС. Бабушка Шараповой до сих пор живет в Гомеле. Сама Маша в 2010 году в качестве посла доброй воли Программы развития ООН посетила в Беларуси районы, пострадавшие от аварии на Чернобыльской АЭС.

### Призовые

Организаторы Открытого чемпионата Австралии сообщили, что турнир этого года -- самый «богатый» в истории тенниса. Победители турнира и среди мужчин, и среди женщин получат по 2 миллиона 300 тысяч австралийских долларов (2 миллиона 180 тысяч долларов США). После выхода в финал Виктория Азаренко и Мария Шарапова уже заработали по 1.150.000 австралийских долларов.

**Алесь СИВЫЙ.**

